1999 № 1(11)



# Гістарычная БРАМА

Бюлетэнь-дайджэст грамадскага аб'яднання
Бяроза-Картузская імя Казіміра Сапегі

Выдаецца раз у два месяцы распаўсюджваецца бясплатна

**Лёс нашчадкаў Войцэха Пуслоўскага**

**В Гданьск и обратно на... велосипеде**

**Откуда “есть пошла” моя деревенька**

**Выжыць у савецкім ГУЛАГу ўдалося адзінкам**

*інфармацыя*

## Ствараецца рэгіянальная арганізацыя краязнаўцаў "Палессе"

7 лютага 1999 года ў офісе Берасцейскага абласнога цэнтра падтрымкі грамадзянскіх ініцыятыў "Вежа" працаваў "круглы стол" краязнаўцаў і гісторыкаў Брэсцкай вобласці з удзелам гасцей з Гродна. На ім былі абмеркаваны пытанні краязнаўчай работы, заслухана інфармацыя выкладчыка Брэсцкага дзяржуніверсітэта Сафронія Жлобы пра праект "Палессе-геас", а таксама іншыя міжнародныя праекты. Пад канец сустрэчы было вырашана стварыць краязнаўчае грамадскае аб'яднанне "Палессе", асноўнымі мэтамі якога будуць: комплекснае навуковае даследаванне Палесся і распаўсюджванне ведаў аб гэтым рэгіёне, захаванне помнікаў матэрыяльнай і духоўнай культуры мясцовага насельніцтва, ландшафтных, геаграфічных, экалагічных помнікаў Палесся. На думку удзельнікаў сустрэчы, краязнаўцы і гісторыкі павінны мець прафесійныя зносіны, дзяліцца матэрыяламі, стварыць сваю базу даных, што зробіць іх працу больш эфектыўнай. "Нам патрэбна няўрадавая арганізацыя, якая будзе каардынаваць гэтую працу, таму мы і ствараем "Палессе", – адзначыў С. Жлоба. Паводле рашэння краязнаўцаў, устаноўчая канферэнцыя аб'яднання павінна адбыцца у другой палове красавіка бягучага года.

**Кантактны адрас для ўсіх зацікаўленых асоб ці жадаючых даслаць свае прапановы: 224008, Беларусь, г.Брэст, вул. Сярэдняя, 16.**

# Лёс нашчадкаў Войцэха Пуслоўскага маёнтка Пескі

***Аднойчы, у №2(6) "Гістарычнай брамы", мы ўжо знаёмілі чытачоў з прадстаўнікамі вядомага магнацкага роду Пуслоўскіх. Сёння – працяг гэтай тэмы.***



***Дварышча. Пасля палявання.***

Родны кут. Зямля бацькоў, зямля, дзе чалавек робіць свае першыя крокі. Яна заўсёды мае асаблівую прывабнасць, чароўную сілу. Усё на гэтай зямлі – самае дарагое, самае блізкае. І куды б чалавека ні закінуў лёс, ніколі не парвецца душэўная сувязь з яго роднай зямлёй . У пацвярджэнне гэтых слоў можна прывесці вытрымку з пісьма графа Ксаверыя Пуслоўскага з Лондана:" Я атрымаў многа віншаванняў і пажаданняў на маё 90-годдзе: з Амерыкі, Англіі, Канады, Аргенціны, Польшчы. Але ні адно не зрабіла мне столькі прыемнасці, як ліст ад пана. Віншаванні і пажаданні на свята з Песак, дзе я 90 год таму з'явіўся на свет, была такая радасная неспадзяванка для мяне." Так адрэагаваў 90-гадовы чалавек на ліст, які ён атрымаў з Радзімы праз 56 гадоў, як пакінуў яе, і не меў ніякіх звестак аб лёсе свайго маёнтка Пескі.



*Ксаверы Пуслоўскі (нар. у 1935 г.)*

I

Маёнтак Пескі вядомы з 16 стагоддзя. Тады ім валодаў Аляксандр Ягелончык. Пазней Якуб Пуслоўскі адкупіў частку і стаў новым уладальнікам гэтага маёнтка. І з таго часу Пескі становяцца фамільнай рэзідэнцыяй сям'і Пуслоўскіх.

Род графаў Пуслоўскіх – адзін з багацейшых на Беларусі. Яны былі вялікімі землеўладальнікамі і мелі таксама шмат маёнткаў, сядзіб і палацаў.



***Францішак Пуслоўскі і яго жонка Ірэна Моль. На заднім плане будынак аранжэрэі, якога сёння ўжо няма.***

Значную цікавасць прадстаўляе сядзіба Пуслоўскіх у в. Пескі на Бярозаўшчыне, што захавалася да сённяшняга дня. Гэта помнік сядзібнай архітэктуры і садова-паркавага мастацтва пейзажнага стылю. Сядзіба пачала фарміравацца яшчэ пры Казіміры Пуслоўскім. А свой непаўторны выгляд набыла пры жыцці самага знакамітага і заможнага з Пуслоўскіх – Войцэха Пуслоўскага (1762–1833), які часта наведваў дварцовыя балы ў Пецярбургу, але стала жыў усё ж у Песках, дзе пабудаваў выдатны палац. Палац аздабляла калекцыя карцін еўрапейскага жывапісу, а таксама зборы іншых твораў мастацтва. Быў у маёнтку і свой аркестр з уласных слуг, а таксама вельмі добрая кухня. Акрамя палаца ў ансамбль маёнтка ўваходзілі дзве брамы, якія захаваліся да нашага часу, двухпавярховая каменная аранжэрэя "Павільён роз", спіртзавод, вялікі вятрак і жылыя пабудовы для прыслугі і рабочых завода. Палац стаяў на пакатым узгорку, ад якога бярэ пачатак парк, закладзены ў 18 стагоддзі. Парк спланаваны па пейзажнай схеме з алеямі і сажалкамі, у якіх разводзілася рыба. Непадалёку было Чорнае возера, і з яго ў вадаёмы ўвесь час па сістэме каналаў цякла свежая вада. У парку і па сённяшні дзень захаваліся рэдкія для нашай мясцовасці пароды дрэў. Першапачатковы палац Войцэха згарэў у пажары, што адбыўся ў 1843 годзе. У той час маёнтак належаў сыну Войцэха Пуслоўскага – Францішку Пуслоўскаму (1800–1859). Згарэўшы палац не сталі адбудоўваць. У новы сядзібны дом перабудавалі стайню, якая размяшчалася крыху воддаль ад палаца. Гэты дом таксама захаваўся і ўяўляе сабой прамавугольны будынак, складзены з магутных брусоў лістоўніцы і накрыты вальмавым дахам. Асноўным архітэктурным элементам будынка з'яўляецца чатырохкалонны класічны порцік у цэнтры галоўнага фасада. У франтоне была размешчана галава сабакі, што сведчыла аб схільнасці ўладальніка да палявання. Дом складаўся з жылых пакояў, кухні, сталовай, малельні, гаспадарчых памяшканняў і абаграваўся печамі і камінамі.

Галоўны ўезд у сядзібу афармлены велічнай цаглянай уязной брамай, збудаванай у выглядзе стральчатай аркі. Круглыя вежы і розныя ўпрыгожванні надаюць ёй старажытны выгляд. Да заходняга боку брамы прымыкае каравульнае памяшканне, у якім і цяпер жывуць людзі. Другая, заходняя брама, пабудавана ў тым жа стылі, але амаль поўнасцю разбурана часам і людзьмі. Не захавалася да нашага часу аранжэрэя, ветраны млын і капліца. Спіртзавод, пабудаваны ў 1870 годзе Францішкам Пуслоўскім (1846–1901), быў шматразова рэканструіраваны,



апошні раз у 1939 г Францішкам Пуслоўскім (1903–1988). Сёння завод значна пашырыўся, дабудаваны новы цэх. Зараз на ім выпускаецца гарэлка "Старапескаўская". У свой час былі прапановы адзін з гатункаў гарэлкі назваць "Граф Пуслоўскі" – у гонар заснавальніка спіртзавода.

II

І вось некалькі год таму, прыклаўшы шмат намаганняў, мне ўдалося знайсці аднаго з нашчадкаў славутага роду – графа Ксаверыя Пуслоўскага, які жыў у Лондане. Між намі ўсталявалася перапіска. Ён быў вельмі ўзрушаны і ўдзячны лёсу за тое, што ў 90-гадовым узросце атрымаў ліст з месца, дзе нарадзіўся і вырас. А пражыў граф у Песках 29 год і, зразумела, яму было вельмі цікава даведацца, што сталася з сядзібай пасля вымушанай эміграцыі. Асаблівую цікавасць граф праявіў да месца, дзе пахаваны ўсе продкі Пуслоўскіх – касцёла св. Войцэха у в. Альшэва. Касцёл пабудаваў у 1809 г. Войцэх Пуслоўскі, а ў 1833 г.





*Браты Францішак і Ксаверы Пуслоўскія. 30-я гг. XX ст.*

яго разам з жонкай пахавалі ў труннай капліцы гэтага касцёла. На вялікі жаль, на сённяшні дзень нічога з гэтага не захавалася. Царква, у якую быў перабудаваны касцёл, узарвана ў 1960-х гадах савецкай уладай.

Зацікавіўся Ксаверый Пуслоўскі і сваімі сямейнымі фотаздымкамі, якія былі пакінутыя ў маёнтку, а потым захоўваліся ў мясцовых жыхароў. Праз прэзідэнта Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў А. Мальдзіса большая частка з іх была перададзена іх уладальніку Ксаверыю Пуслоўскаму. Для старога графа гэта была радасная падзея. Прыемнай нечаканасцю для яго з'явілася вестка пра тое, што яшчэ жыве жанчына-карміцелька, якая сваім малаком выкарміла апошняга з Пуслоўскіх, народжанага ў маёнтку Пескі. Мамка Аляксандра жыве ў сваёй вёсцы Лісічыцы і па сённяшні дзень. У 1997 годзе атрымала ад Пуслоўскага фотаздымак Ксаверыя (1934) і пасылку з падарункамі. Цікавую гісторыю аб тым, як Аляксандра трапіла ў сям'ю да графаў Пуслоўскіх расказаў жыхар вёскі Пескі Іван Чапырка, які працаваў у той час у маёнтку садоўнікам:

"Гэта адбылося ў 1934 годзе. Сям'я Францішка Пуслоўскага чакала нараджэння другога дзіцяці. Першая дачка Францішка – Марылька памерла ў малым узросце. У чэрвені 1934 года ў бальніцы г. Варшавы графіня Ірэна Моль-Пуслоўская нарадзіла сына. У Песках граф пачаў шукаць для сына карміцельку. З трох жанчын дактары г. Брэста выбралі Аляксандру. Гэта была маладая жанчына з вёскі Лісічыцы, якая толькі што нарадзіла дачку. Сама яна не была замужам, бо бацькі хлопца, з якім яна сябравала, не дазвалялі жаніцца на ёй. Аляксандра жыла ў вельмі беднай сям'і. Граф падарыў бацькам Аляксандры самую лепшую карову са свайго статка, каб яны маглі гадаваць сваю ўнучку, а Аляксандра перайшла жыць у маёнтак Пескі, дзе і выкормлівала нованароджанага графскага сына Ксаверыя. Яна была ўсім забяспечана, жыла шыкоўна. Аднойчы ля Аляксандры прысела графіня і спытала, што яна хацела б ад Пуслоўскіх за тое, што корміць іх дзіця. Аляксандра адказала, што самае вялікае яе жаданне – выйсці замуж за бацьку сваёй дачкі. Пра самае вялікае жаданне карміцелькі графіня расказала графу. Праз некаторы час граф паехаў да хлопца Аляксандры і запрасіў яго да сябе на работу аб'едзчыкам, паабяцаўшы добры заробак. Міша, так звалі таго хлопца, згадзіўся і стаў працаваць і жыць у графа. Мішыны бацькі таксама былі задаволеныя такой прапановай. Міша працаваў старанна, у яго ўсё атрымлівалася і, акрамя таго, з'явілася магчымасць часта сустракацца са сваёй каханай дзяўчынай. Праз некаторы час графіня, сустрэўшыся з Мішам, гаворыць яму: "Міхал, а чаму б табе не ажаніцца на нашай Аляксандры? Граф дасць табе за яе добры пасаг." Міша вельмі ўзрадаваўся. І бацькі далі дазвол на жаніцьбу. Хутка зрабілі вяселле, граф сапраўды даў добры пасаг і Міхал з Аляксандрай сталі самымі заможнымі ў вёсцы. Праз нейкі час у іх з'явілася другая дачка. Аляксандра гадавала сваіх дочак, а Міхал працаваў у Пуслоўскіх. Так працягвалася да верасня 1939 года.



17 верасня 1939 года Пуслоўскія з'ехалі за мяжу, пакінуўшы маёнтак і прыслугу. Больш сюды ніхто і ніколі з іх не вяртаўся. А Аляксандра з Міхалам працягвалі жыць заможна, мелі дом, зямлю, карову, яшчэ нейкую жывёлу на зайздрасць аднавяскоўцам. Затым было раскулачванне. Аляксандра, Міхал і дзве іх дачкі апынуліся ў высылцы. Умовы жыцця былі невыноснымі. Дочкі памерлі, Аляксандра з мужам выжылі, цудам засталіся жывымі. У сваю вёску вярнуліся ўжо ў сталым узросце. Тут у іх нарадзіліся яшчэ дачка і сын. З апошнім Аляксандра жыве і па сённяшні дзень."

А гэта ўжо з успамінаў самой Аляксандры: "Граф Францішак Пуслоўскі жыў вельмі заможна, добра ставіўся да сваіх слуг і рабочых. Яны былі забяспечаны ўсім неабходным. Да гаспадара ў госці часта

прыязджаў з жонкай ягоны малодшы брат Ксаверы Пуслоўскі, які жыў у Целяханах. За сталом гаспадар піў гарэлкі вельмі мала. І мяне больш за ўсё здзіўляла тое, што ён часта еў хлеб з маслам, пасыпаны бярозавым вуголлем. Напэўна, у яго быў хворы страўнік. А вось яго брат, так наадварот, любіў добра выпіць і смачна паесці.



***Служачыя Пуслоўскіх у маёнтку Альберцін***

Успамінаецца і такі выпадак. Аднойчы прырэўнавала графіня свайго "хворага" графа да адной вельмі прыгожай служанкі Марыі і загадала звольніць яе з работы. Але праз некаторы час Марыя зноў працавала ў графа, але ўжо на другой рабоце."

6 студзеня бягучага года граф Ксаверы Пуслоўскі, які жыў у Лондане, памёр ва ўзросце 93 год. Там засталася яго жонка Сафія, з якой ён пражыў 67 год. Дзяцей яны не мелі.

Апошні з Пуслоўскіх – Ксаверы (1934), які нарадзіўся ў маёнтку Пескі, жыве зараз у Амерыцы ў Вашынгтоне. Яму 64 гады. Мае двух сыноў – Ксаверыя і Марка. Жыхарка в. Пескі Надзея Мікалаеўна Дайновіч успамінае: " Мая маці працавала ў графіні служанкай і мне часта даводзілася бываць разам з маці ў графскім доме. Мне тады было гадоў дзесяць. Маленькі граф рос на маіх вачах. Я часта гуляла з ім па садзе. Аляксандры ў маёнтку ўжо не было і мая маці глядзела яго, калі ім не займаліся выхавацелькі. У 39-ым, калі сям'я Пуслоўскіх назаўсёды пакідала маёнтак, запомнілася, як як гэты пяцігадовы хлопчык гаварыў маёй маці: "Пані Марыя, я абавязкова вярнуся дадому."

Такі вось лёс склаўся ў нашчадкаў Войцэха Пуслоўскага, якія жылі калісь у маёнтку Пескі.

## Генеалагічнае дрэва Пуслоўскіх маёнтка Пескі, пачынаючы з Войцэха Пуслоўскага




*Іван Данілавіч Новік, настаўнік, краявед.*
*В. Пескі, Бярозаўскі р-н.*

# Маёнтак Пескі

Дваровы комплекс у даўнім маёнтку Пуслоўскіх, якім яны валодалі з XVII ст. да 1939 года. Галоўная сядзіба Пуслоўскіх – палац XVII ст., выкананы ў стылі класіцызму, згарэў у 1843 годзе. Пасля пажару ў жылы дом была перабудавана даўняя драўляная стайня XVII ст., якой таксама надалі форму тыповага маёнтка стылю класіцызму. Гэта аднапавярховы будынак, на плане мае выгляд падоўжанага прамавугольніка. Сцены тынкаваныя, зробленыя з брусоў лістоўніцы. Накрыты дом высокім чатырохсхілевым дахам. На абодвух даўжэйшых фасадах знаходзяцца крыху ўзвышаныя порцікі з дзвюма парамі калон, увенчаныя трохвугольнымі франтонамі. Фасады аздобленыя шырокімі паясамі рустыкі і падстрэхавым плітачным карнізам. Ззаду, за домам, знаходзіцца яшчэ адна пабудова ў форме асабняка. Яна атрымала такую форму, найверагодней, пасля першай сусветнай вайны ў выніку перабудовы даўняга гаспадарчага будынка 2-ой паловы XIX ст. Па некаторых звестках, у міжваенны перыяд тут жыў апошні ўладар маёнтка – граф Францішак Пуслоўскі (што тычыцца дрэннага стану папярэдняй сядзібы, то, цалкам магчыма, збудаванні маёнтка моцна пацярпелі ў выніку падзей першай сусветнай вайны). Гэта трынаццацівосевы аднапавярховы будынак са скромным вонкавым дэкорам. Пры ўваходзе – порцік а чатырох калонах, на які абапіраецца трохвугольны франтон. З гаспадарчых пабудоў уцалела двухярусная вінакурня, перабудаваная ў другой палове XIX ст. з даўняй, стылю позняга класіцызму, палацавай аптэкі. Вельмі цікавымі аб'ектамі з'яўляюцца дзве неагатычныя брамы з сярэдзіны XIX ст., што вядуць на тэрыторыю рэзідэнцыі. Лепей захаваная і большая – паўночная. Яна выконвае функцыю галоўнай уязной брамы. Утворана дзвюма высокімі круглымі вежамі, увенчанымі зубцамі. Паміж сабой вежы злучаныя сцяной з такімі ж зубцамі і фрызамі. У сцяне – стральчатая арка з падвешанымі жалезнымі кратамі. Па абодва бакі ад веж знаходзяцца прадаўгаватыя каравульныя памяшканні, выкананыя ў тым жа самым стылі. Заходняя брама меншая і без веж, а стральчаты праход ў яе сярэдзіне замураваны (выкарыстоўвалася як склад). Яна ўвенчана зубцамі і пінаклямі. Па баках знаходзяцца два каравульныя памяшканні. Паводле паданняў, у час студзеневага паўстання 1863 года ў адной з брам упарта абараняўся атрад паўстанцаў. Ад забудаванняў да берага Чорнага возера (абведзенага зараз валам) ляжыць пейзажны парк, які мае плошчу каля 10 га (сёння часцёва забудаваны). Ён закладзены вакол двух прудоў, звязаных паміж сабой і з возерам сістэмай каналаў. Праз каналы перакінутыя каменныя мосцікі. У парку захавалася таксама сістэма алеяў. Адна з іх вядзе да пагорка на паўднёвым краю парку, дзе знаходзяцца руіны магільнай капліцы Пуслоўскіх. Сёння на тэрыторыі даўняга маёнтка месціцца школьная турыстычная база.

*G. Rakowski "Ilustrowany przewodnik po zabytkach kultury na Bialorusi"*

*ПЕРАКЛАД З ПОЛЬСКАЙ МОВЫ СІНКЕВІЧА М.*



*Адна з веж паўночнай уязной брамы ў маёнтак Пескі*



***Помнік архітэктуры XIX ст. – заходняя уязная брама ў былым маёнтку Пуслоўскіх у в. Пескі Бярозаўскага раёна.***



***Час няўмольны... Пустыя аконныя праёмы, адсутнасць даху, парушаныя зубцы на сценах, трэшчыны, адпаўшая тынкоўка, смецце, там-сям парасткі хмызняку. Так выглядае ўміранне...***





***Калі тэрмінова не спыніць працэс разбурэння, то ў хуткім часе наша зямля стане бяднейшая яшчэ на адзін помнік.***

*Фота А.Маразюка*

Алексей Дубровский

# Польское болото

Когда проект реконструкции мелиоративного объекта "Польское болото" Берёзовского района уже был готов, меня заинтересовало происхождение названия объекта. Зная, что история Беларуси имеет богатые корни, подумал, что и здесь должна скрываться неординарная малоизвестная история или событие. Мои предположения полностью подтвердились. Открытая страница поведала о мужестве, борьбе за свободу и трагедии полешуков.



*С. М. Яковчиц во дворе дома А. Козловича*

Но для этого пришлось сесть на велосипед и в выходные дни побывать в деревнях трёх районов: Кобринского, Берёзовского и Дрогичинского, прилегающих к этому болоту, порасспрашивать старожилов о давно минувших днях и событиях. Надежды на положительный исход было мало, тем не менее, поставленная цель была выполнена, и сейчас знаю, что кроется за этим названием.

Прошло ровно 136 лет, как утихли бурные военные баталии восстания 1863 года. На Полесье первые бои с царскими войсками были в мае 1863 года. Здесь, между деревнями Лука–Горск–Детковичи, на стыке 4-х нынешних районов, в непроходимых болотах и диких лесах, которые укрыли первый повстанческий отряд под руководством подполковника русской армии шляхтича Ромуальда Траугутта. Недалеко от этого места было имение его бабушки – княжны Шуйской, где прошло его и его детей детство. В 10 километрах от имения был двор Митрашевский, в котором Ромуальд Траугутт дал согласие возглавить отряд, а позже Элиза Ожешко, будущая польско-белорусская писательница, организовала с подругами госпиталь. Сборным пунктом повстанцев определили имение Густава Радовицкого в Детковичах, откуда повстанцы шли на север в леса и болота, так называемые Горецкие леса, по названию рядом лежащих деревень Горы и Горск.

Уже через месяц отряд был окружён царскими войсками в составе двух рот и 40 казаков. Но и первая и вторая попытки разбить отряд из 200 человек не удались. Тогда экспедицию возглавил генерал Эггер с 3000-ым отрядом и разбил повстанцев. Р. Траугутт был легко ранен. Среди его друзей 40 человек были убиты. Похоронили их на берегу Горецкого канала, которого я не обнаружил ни на одной современной топографической карте, а только на карте 1923 года из бывшего польского генштаба увидел, что болото пересекает канал.

Объехал я несколько деревень и, наконец, в 8 утра 19 августа оказался в деревне Горск Берёзовского района у Степана Михайловича Яковчица. Мой ранний визит, поздравление с праздником Яблочного Спаса его очень обрадовали, тем более, что в этот день он имел счастье родиться... 96 лет назад. Ему было что поведать мне. Вся его жизнь прошла в этих местах. Ещё будучи пастушком, в 1912 году, слушал интересные рассказы стариков о событиях 1863 года.

В доброй памяти, довольно живой, он с интересом вспоминал своё детство. Болото получило название от поляков, т. е. повстанцев, которые нашли убежище на островах среди болота. Русские войска старались выгнать их из чащобы на широкую трибу (просеку), чтобы перестрелять как зайцев. Он видел эту трибу, заросшую ещё в его детстве. Ширина её была 12 сажней, и, неизвестно, кто и для чего её сделал. В конце концов шестерых повстанцев всё же окружили, и они, в последний момент, спрятали в старом канале свой золотой скарб, который они, подростки, пытались найти. С тех пор болото назвали польским, а канал был и назывался Горецким. О могилах на этом канале упоминает Э. Ожешко. Осенью 1863 года она часто их навещала, возлагала цветы.

Степан Михайлович был для меня находкой. Дал слово, что доживёт до 100 лет, хотя и так считается первым старожилом деревни. Меня закидал вопросами больше, чем я его: живут ли где-нибудь хуже, чем в Беларуси, когда же жизнь станет лучше, какая религия лучше: евангельская или православная? Встречей остались довольны обоюдно. В конце беседы пришли к соседнему пустующему дому, в котором родился и жил в совсем молодом возрасте известный журналист и писатель Анатолий Козлович, кстати, главный оппонент мелиораторов.

С Горска отправился дальше, в деревню Детковичи, и ещё дальше, в деревню Попина Дрогичинского района, где до сих пор сохранились могилы участников восстания, друзей Р. Траугутта и Э. Ожешко – Яна и Стефании Жуков. Их подвиг – отдельная история.

# В Гданьск и обратно на... велосипеде.

У многих людей есть к какому-либо делу повышенный интерес или, как его называют, – хобби. И если такое счастье оказалось в судьбе, то перед человеком преграды нет. Моя тяга к истории и путешествиям ещё в 70-ые годы бросала меня и к египетским пирамидам, и в Святую Софию Стамбула, и в афинский Акрополь и в самые интересные места Прибалтики, России, Украины. С годами интерес к странствиям не пропадает, а наоборот усиливается. Когда в 1990 году мне посчастливилось быть в составе неофициальной делегации от Беларуси на праздновании 580-летнего юбилея Грюнвальдской битвы в Польше, в голову пришла мысль: "Почему славяне после такого разгромного поражения крестоносцев не смогли взять их столицу?" Захотелось самому разобраться, найти ответ на этот вопрос на месте. Чтобы осуществить такую поездку на мою социалистическую зарплату пришлось проработать самый дешёвый вариант – велосипед и палатка. Кроме того возникло попутное желание посетить музеи, архивы, библиотеки, попытаться найти что-нибудь по истории Полесья и Пинска, которому недавно исполнилось 900 лет.

Планировал солидную экспедицию, но друзья не смогли преодолеть материальный барьер и в конце концов со мной остался верный и надёжный спутник – жена. Мы оформили надлежащим образом документы, поездом переехали границу и с окружного музея Бялой Подляски начали знакомство с Польшей и её архивами. Описать в этой статье всё увиденное нами в 20-ти городах Польши не представляется возможным, поэтому остановлюсь на наиболее запомнившемся и впечатлившем.

В Варшаве – это Лазенка. Королевский парковый ансамбль 18 века. Он прекрасно сохранился и его красота известна далеко за пределами Польши. Но меня больше тянуло к местам, исторически связанным с крестоносцами. Первым таким объектом был Червиньск на Висле. Это местечко знаменито тем, что здесь проходила переправа войск Ягеллы, куда подошло также и белорусско-литовское ополчение во главе с Витовтом. Отсюда они вместе и двинулись на север – навстречу своей судьбе и судьбе своих народов.

Нам повезло. Был воскресный солнечный день. Во дворе костёла, построенного в 1155 году, Червиньск праздновал день Святой Девы Марии. Таких радостных и многолюдных праздников у себя дома мы не встречали. Торжественная имша, военный оркестр – всё свидетельствовало о возрождении польского духа после стольких лет коммунистического диктата.




Город Торунь открылся нам со старого моста им. Пилсудского через р.Вислу. С него начиналась Хелмская земля, которую в 1228 году уступил крестоносцам Конрад Мазовецкий, надеясь на их помощь в борьбе против пруссов. И в Торуни, и в других городах, местечках восстановлены исторические памятники, замки, повсюду видна забота о своём культурно-историческом наследии. В Торуньском Университете им. Коперника я решил посмотреть в библиотеке библиографию Пинска. Вся информация находится в компьютерах прямо в фойе. Любой человек, что называется "с улицы", может прийти, найти необходимый материал и сделать заказ.

Далее наш путь проходил вдоль р. Вислы, над поймой которой нависли замки Квидзина и Грудзёнца. Сама пойма была осушена немцами ещё в 19 веке.

Мальборк – бывшая столица, сердце ордена крестоносцев, открылся нам с моста через реку Ногат. Было 18.00. Долго любовались городом, затем повернули к реке, на берегу поставили палатку, привели себя в порядок – завтра встреча с мечтой.

Утром велосипеды и вещи оставили в редакции газеты "Мальборк" и пошли к замку. Замок взят под охрану ЮНЕСКО как шедевр оборонного искусства 13-14 веков. Сейчас там расположен музей. Много туристов, очереди, особенно много немцев. Почти три часа заняла экскурсия по этому уникальному творению человеческих рук. До сих пор у меня не укладывается в голове, какой талант нужно было иметь проектировщику замка, чтобы создать такое чудо. Но для того, чтобы оценить его по достоинству, нужно конечно же увидеть всё это собственными глазами.

За 700-летнюю историю замка он пострадал всего лишь раз – в 1945 году от Советской Армии. Его три высок[illegible]е стены, рвы, заполненными в[illegible]дой, были непрео-



долимой преградой для средневековых рыцарей. В сложной фортификации и был секрет неприступности замка.

Далее на нашем пути лежал Гданьск. Очень интересным оказался музей истории города, а в нём особенно – зал на третьем этаже, где расположена экспозиция старинных карт. На многих из них – наша Беларусь. Подобные карты – моя слабость и я там надолго задержался, изучая их. Восстановленный из руин старый город, набережная реки Мотлавы, куда в 1787 году начали прибывать и торговать суда с Полесья, в буквальном смысле слова не отпускали нас. Но впереди ждал Сопот – наша крайняя точка маршрута.

Когда колесо велосипеда коснулось балтийской волны – мне всё ещё не верилось, что на таких допотопных велосипедах мы так далеко забрались. Два дня жили на берегу моря в кемпинге в 1,5 км от Сопота. Его холодная вода не остановила нас от желания окунуться. Налегке посещали Сопот и Гданьск.

Назад возвращались через Эльблёнг, Ольштын, Белосток. Погода ухудшилась. Начались дожди, грозы, температура упала до +7.



Однако всё увиденное, весь багаж впечатлений, безусловно, окупает все наши бытовые неудобства во время путешествия. В этом году мы строим планы побывать в Кракове, Ченстохове на тех же велосипедах, которые, как ни странно, выдержали более чем 1000 километровое путешествие.

*10.03.99*

*А. Дубровский, г. Пинск.*

# Откуда “есть пошла” моя деревенька.

***Время Иванов, непомнящих своего родства, кажется, прошло. Наша многовековая история возвращается к нам. Сейчас всё больше появляется печатной продукции, из которой можно узнать родословную имён, населённых пунктов.***

С удовольствием прочитала книгу Александра Рогалева “Сцежкі ў даўніну”, выпущенную издательством “Полымя”. В ней нашла такие строки о деревне, в которой я живу:

“Перасяленцы з-пад Магілёва называліся звычайна магілёўцамі. А калі такія перасяленцы-магілёўцы заснавалі вёсачку ў Пружанскім раёне на Брэстчыне, то і яна атрымала назву Магілёўцы”.

В научно-популярной книге Владимира Юревича “Слова жывое, роднае, гаваркое. . . ” даётся несколько иная интерпретация:

**“Магілёўцы. Назва звязана з гістарычнымі могілкамі, на якіх былі пахаваны зваяваныя, палеглыя воіны, а каля тых могілак пабудавалася вёска”.**

Выскажу по этому поводу своё суждение и расскажу о Могилёвцах, с которыми свела, сроднила меня педагогическая судьба.

Старожилы рассказывали, что название деревни напрямую связано с военными событиями. Много войска погибло, проходя по нашей местности. Везде валялись трупы сражавшихся. Затем останки были захоронены на возвышенном месте, получившем название Могильник, а деревня стала называться Могилёвцами.

Из “Свода памятников истории и культуры Белоруссии”(Брестская область) узнаём :

**“. . . Могильник выявил в 1968 году В. Г. Супрун, обследовали в 1970 году А. Г. Митрофанов, а в 1980 году Т. Н. Коробушкина (в раскопках принимали участие школьники Могилевецкой СШ ). Курган, который раскопали, был обложен 4 камнями-валунами. Есть основания предполагать, что обкладку из небольших камней имели и другие курганы ( прослежены их выемки ).**

**В северо-восточной части кургана расчищена плотная вымостка из 7 камней меньших размеров. . . Могильник датируется XI веком, принадлежал дреговичам”.**

Это место давно названо людьми Могильником. В северо-западной части его хоронили в старину незаконнорожденных детей; последние захоронения проводились в период первой мировой войны.

На Могильнике есть памятник, о котором ходят разные легенды. Жившая здесь с давних пор учительница Н. Суша рассказывала, что памятник поставлен в честь польского рыцаря Завиши Чарнага, участника Грюнвальдской битвы. Такой же памятник сооружён в Полонске, где, по её утверждению, был замок Завиши, и куда он очень редко приезжал со своими двумя сёстрами из-за границы.

Другие утверждают, что памятник воздвигнут в честь восстания 1863-64 гг. и что от него до местечка Лыского был сооружён подземный проход. Третьи уверяют, что памятник поставлен в честь событий 1812 года.

В своём отчёте Т. Н. Коробушкина пишет :

**“У Пружанскім раёне лічаць, што гэтыя курганы засталіся ад войнаў з французамі ці шведамі, адпаведна называюць французскімі ці**

**шведскімі могілкамі. На самай жа справе ў старажытнасці існаваў такі звычай: пры пахаванні чалавека – насыпаюць з зямлі курган. Разам з нябожчыкам хавалі яго асабістыя рэчы... Ва ўказанай вышэй групе засталося яшчэ чатыры курганы... У іх хавалі ў XI-XII ст. мясцовае насельніцтва".**

Историю Могилёвцев можно связать ещё с гербом первых владельцев имения – панов Быховцев. В средние века основная масса населения была неграмотной, а гербы легко "читались". Говорят, что герб владельцев имения помещался на стене дома, на воротах, на конских уборах.

Что же собой представлял герб Быховцев?

В свидетельстве 12 дворян от 28 февраля 1786 года о подтверждении происхождения Ивана и Василия Быховцев от предка их, польского шляхтича Леонтия Быховца, проживавшего в Городницком уезде, читаем:

**"... Герб набыл дату 1454 года, дабы никто не имел сомнения, что данная фамилия принадлежит к достойной шляхте... ".** Далее сообщается, что гербом Быховцев был щит, а на нём изображение белой могилы с золотыми крестами. Герб связан с боевым прошлым: об этом говорит присутствие рыцаря. На голове рыцаря – корона, подчёркивающая дворянское происхождение владельца герба. Элементом герба обычно являлось животное, здесь – лиса. Изображение животного художники делали на гербе всегда в левую сторону от зрителя.

В пяти километрах от Могилёвцев, в Борисиках, находится старое кладбище. Там есть огромная памятная плита. Если внимательно присмотреться, то видно, что потомок древнего дворянского рода генерал Станислав Быховец, видимо, пожелал, чтобы фамильный герб был выбит на его могильной плите – герб с изображением могилы с крестами.

Исходя из вышесказанного, можно с уверенностью сказать, что название деревни Могилёвцы произошло от слова "могила". И здесь писатель Владимир Юревич, безусловно, прав, как права и Т. Н. Коробушкина.

Кстати, описание герба Быховцев мы находим и в энциклопедии Оргельбранда:

**"На чёрном фоне, в могиле белой вверх и вниз воткнуты кресты золотые. Над шлемом в короне между серебряными трубами сидит лиса".**

И в других польских словарях гербом Быховцев называется "могила"...

Могилёвцы – центр совхоза "Труд". Совхоз находится в северной части района, в 60 км от районного центра Пружаны. Совхоз объединяет населённые пункты Могилёвцы, Осошники, Крупа, Баяры, Шпаки, Апеляновичи, Зельзин, Брановцы, Бушняки.

Территория совхоза расположена на юго-восточных островах Волковыской возвышенности, входящей в состав Белорусской гряды. Территорию совхоза пересекает речка Щиба (Могилёвка, Муха), которая течёт в узкой долине. Пойма реки заторфована.

В далёком прошлом на берегу реки Щибы и жили племена охотников и рыболовов. Они ещё не занимались земледелием и животноводством, не знали меди и железа, но умело обрабатывали и шлифовали камень. Свидетельство тому – найденные шлифованные топоры.

Славяне строили укреплённые жилища, так называемые "городища", обнося их валами. До сих пор сохранились остатки такого городища. Площадка городища была обведена тыном из брёвен. Размер городища был не слишком велик (70x65м) и вокруг него выкопан ров, который наполнялся водой. Перемешанный культурный слой городища сохраняет до сих пор фрагменты керамики XV–XVII веков, полированных изразцов, кирпича-пальчатки и других предметов.



И более поздняя история деревни представляет огромный интерес, но об этом, возможно, будет ещё написано.

*Вера Терехова.*
*Пружанский район.*

*На снимке: памятный знак возле деревни Могилёвцы. Возможно, кто-то знает, кто его воздвиг, по какому поводу?*

# ВЫЖЫЦЬ У САВЕЦКІМ ГУЛАГУ ЎДАЛОСЯ АДЗІНКАМ

***Амаль шэсцьдзесят гадоў мінула з той пары, калі савецкая ўлада пачала знішчаць у былой Заходняй Беларусі так званых кулакоў, залічваючы іх у стан ворагаў народа. Цэлымі сем'ямі іх высылалі ў Сібір, на поўнач краіны. Нікога не шкадавалі – ні малога, ні старога. Адно слова ворагі, кляймо, прышывалі так, што заставалася назаўсёды, нібы радзімая пляма.***

***Памяць людская захоўвае ўсё тое страшнае мінулае, не дае згубіцца, знікнуць яму.***

***Агаф'я Мікалаеўна Бахур, жыхарка вёскі Боркі, сама перажыла тое раскулачванне, разам з сям'ёй была вывезена ў Архангельскую вобласць, паспытала гулагаўскага хлеба. Агаф'я Мікалаеўна што-колечы расказала нашаму карэспандэнту аб тых далёкіх днях.***



I

Калі лічыць па старых метрыках, то яшчэ летась мне споўнілася 80. Не верыцца, што столькі пражыта. Здаецца, усё было нібыта ўчора, а сёння ўжо трэба рыхтавацца да горшага. Вы здагадваецеся, пра што я кажу.

А пачыналася для мяне ўсё, як быццам і нядрэнна. У 1937 годзе ў Борках выйшла замуж. Мой муж Аляксандр, сын мясцовага лесніка, служыў у палякаў. Яны былі тут гаспадарамі. Мелі мы каня казённага, а свёкар яшчэ паляўнічую стрэльбу, каб ахоўваць лес. Апрацоўвалі два невялікія надзелы зямлі, бо ў хаце жылі дзве сям'і.

Сказаць, што жылі вельмі заможна, нельга. Хлеб, бульба, гародніна, сваё малако і мяса былі амаль увесь час на стале. Так што галадаць не прыходзілася, хаця эканомілі на ўсім. Трэба было купляць адзенне, абутак, некаторыя прадукты. Вядома, і падаткі забіралі нямала.

З прыходам савецкай улады ў верасні 1939 года пачаўся сапраўдны наступ на сялян, асабліва на тых, якія мелі сваю гаспадарку. У нас забралі каня, карову, зямлю. Свёкар застаўся без работы. Але ж гэта яшчэ паўбяды, бо не ўсё забралі, тое-сёе засталося ў гаспадарцы і пражыць, хоць з цяжкасцю, але можна было.

Самае галоўнае пачалося ў пачатку 1940 года. Нам аб'явілі, што наша сям'я, як ворагі народа, падпадае пад высяленне. Сказалі, каб узялі з сабой толькі неабходнае – адзежу і харчы на дарогу. Быў у нас парсюк, гадавалі да вялікадня, прыйшлося забіць. Усё нажытае – хата, хлеў, гумно, карова, авечкі – засталося ў Борках, і мы гэтага больш не ўбачылі.

На двары трашчаў мароз (быў пачатак лютага). Бацькі мужавы, мой муж Аляксандр, я з шасцімесячнай дачушкай Верай адправіліся не па сваёй волі ў далёкі шлях. Нацярпеліся за дарогу ў тых таварняках. А везлі не адных нас, а поўныя вагоны такіх жа бедалаг. Дзесьці праз два ці тры тыдні былі ў Халмагорскім раёне Архангельскай вобласці. Завезлі нас у глухую тайгу да нейкага закінутага барака. Маўляў, засяляйцe.

А ў тым бараку сцены свецяца, вецер гуляе. Праўда, трошкі зацішней, чым на двары. Снегу ў тую зіму navaліла столькі, што ледзь дзверы адкапалі. Грубку нейкую захудалую, чым маглі падладзілі нашы мужчыны, распалілі, пайшло цяпло. Неяк уладкаваліся, пазапіхалі, што папала пад рукі, ў дзіркі ў сценах, каб не так дула.

Побач з намі пасялілі таксама некалькі сямей такіх жа “кулакоў”, як і мы. Старых і маладых, з малымі дзецьмі.

II

А праз два дні нас пагналі на работу ў лес. Свякруха засталася глядзець маю малую дачку, сваю ўнучку. А мы трое – свёкар Ціхан, Аляксандр і я сталі лесарубамі. Мужчынам далі лучковыя пілы, мне сякеру. Яны спілоўвалі ёлкі, а я абрубвала галіны і сукі. Цяжкая гэтая работа лесарубаў. У канцы першага дня далоні мае пакрыліся пухірамі, а на другі дзень палопаліся. Як далей працаваць? Не выйдзеш – не атрымаеш дзённую порцыю хлеба 400 грамаў і пахлёбку. Прыходзілася абмотваць рукі нейкімі анучкамі, нацягваць рукавіцы і браць у рукі сякеру.

Хто не пападаў у такое становішча, той не ведае, як гэта балюча, калі ў цябе акрываўленыя далоні. А рабіць трэба, бо будзеш галодны і ты, і малая дачушка, і свякруха. А жыць так хацелася, мы ж такія яшчэ маладыя і Верачка малая.

Асабліва туга прыходзілася зімой. Снегу намяло многа, мароз не спадаў. Звычайна на месцы работы раскладвалі агонь. Грэцца не было патрэбы, бо пры працы не змерзнеш, але падсушвацца раз за разам падыходзілі. Бывала спадніца як набрак-

не, а потым змерзнецца, дык шаргаціць па голлі, за сукі чапляецца, перашкаджае і хадзіць, і сякерай махаць.

Непадалёк ад нашага жылля знаходзілася невялікае лясное возера. Чамусьці называлі яго Воўчым. Відаць, таму, што акрамя ваўкоў, туды раней ніхто не дабіраўся. Калі нашы мужчыны даведаліся пра яго, то хадзілі туды лавіць рыбу. А гэта такая вялікая падмога.

У тую першую зіму часта прывозілі "ворагаў" народа сюды ў тайгу, скідалі ў снег цэлымі сем'ямі. Тыя баракі, што стаялі ў розных месцах, былі перапоўнены і прыехаўшым не было куды дзецца. Рабілі нейкія шалашы, грэліся ля агню, дзяцей, хто мог з нашых, забіраў у баракі. Страшна бедавалі людзі. Колькі іх памерла зімой, асабліва пажылых і слабых, нельга падлічыць. Мёрлі, як мухі. Ніхто з уладаў не звяртаў на гэта ўвагі. Маўляў, так і трэба.

Улетку нам крыху лягчэй стала. Паявіліся грыбы, ягады. У возеры можна было як след памыцца, адзежу выпаласкаць. Лазні ў тайзе ў той час ніхто не асмеліўся пабудаваць. А ў халодную пару ваду грэлі на агні, хто ў чым меў, і так патрохі абмываліся, дзяцей у першую чаргу, каб вошы не заелі. Дагэтуль мы іх, можна сказаць, і не зналі, а ў лесе паспрабавалі ўсяго – і голаду, і холаду, і вошай.

### III

Другая зіма наступіла вельмі рана. Ужо ў канцы верасня пахаладала. Дачушцы маёй пайшоў другі годзік, а на свае ногі яшчэ не пайшла. Я так баялася за яе. Колькі разоў ужо хварэла, але ўсе разам выходжвалі. Свёкар ведаў усе лясныя лекі (няздарма ён быў леснікам). Траву заварвалі, настоі з елкі рабілі, давалі піць, выкарыстоўвалі і як націранне.

Зімой пачалі хварэць і дарослыя. Спярша свёкар, потым свякруха. Даглядалі і лячылі адзін аднаго, але работы не кідалі. Страшна было, калі пачалася цынга. Крываточылі дзясны – не хапала вітамінаў, як я цяпер разумею. Ні часныку, ні цыбулі ў нас не было. І дзе ты возьмеш іх у той глухамані, да каго звернешся, у каго папросіш.

Нарыхтоўшчыкі ў нас былі і шафёры, што лес вазілі. Прасілі, малілі што-небудзь прывезці ад хваробы. Але не кожны згаджаўся, відаць, баяліся, бо іх правяралі, каб не дапамагалі "ворагам" народа.

Другую зіму ледзь выжылі. Баяліся, што не дацягнем. Дапамагло трохі тое, што з Борак сваякі прыслалі некалькі пасылак круп, трохі сала, цыбулькі. А вясне радаваліся, як дзеці. Верылі, што штосьці павінна змяніцца. Не можа быць, каб з дня ў дзень адно і тое ж – работа, работа і работа. Нічога іншага. І ніякага заробку, ніякай платы. Раб дый годзе. Маўклівы, пакорны да самага скапання. Там такія толькі і патрэбны.

Помню адзін выпадак. Сусед па бараку не выйшаў на работу. "Не буду на вас працаваць,– сказаў ён. – Пайшлі вы ўсе на..." Лавіў на возеры рыбу, варыў юшку і сядзеў у бараку. Першы раз яго забралі ахоўнікі з сабой і моцна пабілі, прывезлі і кінулі ў барак. Суседзі выхадзілі небараку, але на работу ён зноў не пайшоў. Другі раз яго забралі і больш не прывозілі. Казалі нарыхтоўшчыкі, што на перасыльным пункце расстралялі нейкага мужчыну ад Воўчага возера. Відаць, гэта і быў наш былы сусед.

Дацягнулі да вясны – значыць будзем жыць. Так рашыла ўся сям'я. І колькі мы тут будзем гібець, ніхто нам не казаў. І мы падумалі, што і нам, і нашым дзецям паміраць у гэтым лесе прыдзецца, бо ў такіх умовах доўга не працягнем.

### IV

Але ў адзін дзень усё неяк крута перамянілася. Было гэта дзесьці пад канец чэрвеня 1941 года. Не помню зараз чысла. Прыйшлі ранкам да баракаў двое мужчын з нашай аховы, сабралі ўсіх і сказалі: "Пачалася вайна. Германія напала на Савецкі Саюз. Вы ўсе свабодныя. Можаце ехаць дахаты..." І пайшлі. Ад нечаканасці мы ледзь не аслупянелі. З аднаго боку – радасць, мы – свабодныя, а з другога – трывога, бо вайна.

А як дабірацца, як ехаць, на чым і куды? Як мы зразумелі, дарогі ў Беларусь няма. Трэба дзесьці ў Расіі перачакаць, пакуль скончыцца вайна. Можа дзе-небудзь знойдзем прытулак.

Ох і цяжкая была дарога, ох і нагараваліся. Свайму ворагу не пажадала б такога.

Спыніліся ў Татарыі. Спярша працавалі па найму. Выцягвалі з мясцовай ракі плывучыя бярвенні, пілавалі іх на дровы, калолі і гэтым зараблялі на хлеб. Жылі ў нейкай закінутай хаціне. Баяліся прымаць нас на работу мясцовыя ўлады, бо мы ж "ворагі" народа. На руках у нас засталіся толькі даведкі – хто мы, адкуль і дзе знаходзіліся. Толькі праз год нам далі пастаянную работу. Свёкар Ціхан і Аляксандр сталі конюхамі, я прыбірала ў нейкай сталовай. Былі рады, што з голаду не пухнем.

У 1943 годзе майго мужа Аляксандра забралі на фронт. Адтуль ён не вярнуўся. Пахаронка прыйшла толькі пасля вайны.

Калі Беларусь вызвалілі ад немцаў, мы сталі збірацца ў дарогу. Вярнуліся ў Боркі летам 1945 года. Вёску нашу спалілі немцы. Засталося некалькі хат, крытых чарапіцай. Астатнія вяскоўцы, што ўцалелі, жылі ў зямлянках. У адной з хат нас прытулілі. Свайго нічога не мелі, таму хадзілі па людзях на заробкі. То жыта жалі, то бульбу капалі, усялякую работу рабілі, толькі б што-небудзь мець.

У 1949 годзе ў Борках стварылі калгас. Мне, удаве, не было куды дзецца, пайшла туды працаваць. Вельмі цяжка было самой гадаваць дзяцей. Таму прыйшлося прыняць да сябе ў прымы мясцовага мужчыну. Яшчэ з ім сына нажылі, так-сяк пабудаваліся, дзяцей паднялі на ногі.

Вось так і жыццё мінула, як у тым кіно. Нічога добрага і не пабачыла. Тупаю цяпер штодня ля хаты. Пакуль жывая, трэба варушыцца, не паддавацца розным хваробам, якія нажыла далёка ад дому – спярша ў глухой і суровай тайзе, а потым сярод татараў і ўжо дома. Таму перажытае ў тым савецкім гулагу не забудзецца. Хай яно ніколі ні для кога не паўторыцца.

*Запісаў С. Кажадуб*

*"Газета для вас" №29 15.04.98 г.*

# СЛОВА ПРА ДЗЕДА

Сапраўды, багатая была наша зямля калісьці на годных і сумленных людзей. У кожным горадзе, у кожнай вёсцы былі і ёсць людзі, пра якіх не забыліся, памяць якіх ушаноўваюць мясцовыя жыхары.

І памятаюць іх не за нейкія гучныя пасады альбо за незвычайнае багацце, а перш за ўсе за сумленнасць і годнасць, за добрыя справы, зробленыя імі. Аб гэтым яскрава сведчыць артыкул А. Дзенісюк, надрукаваны ў нумары 6 (10) " Гістарычнай брамы ".

Вось і я вырашыў таксама звярнуцца да гэтай тэмы і расказаць чытачам пра асобу свайго дзеда – Івана Казловіча.

На захадзе Бярозаўскага раёна працякае рэчка Вінец, ператвораная цяпер у меліярацыйны канал. Працякае Вінец па мяжы Бярозаўскага і Пружанскага раёнаў. Недалёка ад вёскі Лукомер, на "пружанскім" баку Вінца знаходзіцца невялікая весачка Загор'е. Там, у сям'і сялян Данілы і Ксеніі Казловічаў і нарадзіўся мой дзед – Іван Данілавіч Казловіч.

Гэта адбылося 31 мая 1915 года. Ішла першая сусветная вайна, і сям'я Казловічаў у хуткім часе выехала ў Расею, ва Уладзімірскую губерню.

Вярнуцца на радзіму давялося толькі ў 1921 годзе, калі Пружаншчына знаходзілася ўжо на польскім баку савецка-польскай мяжы. Але й на радзіме цяжка было жыць малазямельным сялянам Казловічам, асабліва пасля таго, як на свет з'явіўся другі сын у сям'і – Мікалай. А праз два гады, ў 1926 годзе, у сям'і Казловічаў нарадзіўся трэці сын – Аляксей.

Старэйшаму сыну Івану давялося з васьмі гадоў ісці працаваць, пасвіць кароў у заможных сялян весак Загор'е і Яцы – звычайная праца для сялянскага хлопчыка таго часу. Якраз у тыя дзіцячыя гады ў хлопца пачалі з'яўляцца думкі аб несправядлівасці, аб беззабароннасці звычайнага селяніна. Хутка давялося падумаць і аб нацыянальным прыгнёце, калі Іван пачаў хадзіць у польскую школу.

Праз нейкі час Іван пачынае даведвацца аб дзейнасці на абшарах "Kresow Wshodnih" КПЗБ, БКРГ, ды іншых арганізацый, што ў цяжкіх умовах акупацыі вялі барацьбу з існуючым парадкам.

А ў хуткім часе сям'ю напаткала вялікае няшчасце: ад сухотаў памерла гаспадыня – Ксенія Дзмітрыеўна. Жыццё зрабілася яшчэ больш цяжкім, прыходзілася бацьку і хлопцам рабіць тую працу, якую заўжды выконвала маці. Праз некаторы час Даніла Мікалаевіч зноў ажаніўся, бо жыццё без гаспадыні ў хаце было задужа цяжкім.

І вось у 1931 годзе дзед далучаецца да КСМЗБ (Камуністычнага саюзу моладзі Заходняй Беларусі). На гэты выбар, відавочна, паўплывала масавасць арганізацыі, прастата і прывабнасць заклікаў і лозунгаў, блізкасць простым сялянам тых ідэй, за якія змагаліся камуністы. Як бы там ні было, але да канца жыцця мой дзед застаўся пераканаўчым камуністам.

У гэтым месцы хацелася б зрабіць невялікае адступленне.



**_І. Д. Казловіч з сям'ёй. Фота 30-х гг._**

Сёння ад многіх, менавіта свядомых і дасведчаных людзей, можна пачуць разважанні такога кшталту: маўляў, усе камуністы – злачынцы, таму што яны падтрымлівалі Сталіна і яго вынішчальныя дзеянні супраць беларускага народа. Але сярод камуністаў было шмат і такіх людзей, якія дбалі аб шчасці і волі Беларусі, аб адраджэнні сваёй краіны. Што ж да камуністаў з КСМЗБ і КПЗБ, то яны ўвогуле вялі сваю дзейнасць за межамі СССР, ды змагаліся перш за ўсе за вызваленне Заходняй Беларусі ад польскага прыгнёту у супольнасці з такімі арганізацыямі, як БКРГ, ТБШ, і інш. Нягледзячы на рознасць палітычных поглядаў, гэтых людзей яднала агульная ідэя.

У 1933 годзе за актыўную дзейнасць у шэрагах КСМЗБ дзед быў упершыню арыштаваны. У ружанскай камендатуры ен трываў здзекі і катаванні паліцэйскіх, пасля чаго быў кінуты ў Пружанскую турму, дзе знаходзіўся да снежня 1933 г. Здзекі і гвалт у турме прывялі да таго, што пасля вызвалення ў снежні 1933 г. дзед цяжка захварэў і знаходзіўся ў непрацаздольным стане, што пры цяжкіх умовах сялянскага жыцця значна адбівалася на матэр'яльным становішчы сям'і.

У перыяд са снежня 1933 да мая 1934 г. выклікі ў паліцыю і здзекі неаднаразова паўтараліся.

19 мая 1934 года сакратар Пружанскага падрайкама КПЗБ Іван Казловіч быў прысуджаны польскім судом да 4 гадоў зняволяння. У верасні ён быў асуджаны завочна яшчэ на 4 гады па так званаму "працэсу Самайловіча", але два прысуды былі аб'яднаны ў адзін.

Каб больш шырока ўявіць маштабы дзейнасці майго дзеда ў шэрагах КСМЗБ і КПЗБ, дастаткова назваць некалькі іменаў яго сяброў па барацьбе. Вось некаторыя з іх:

Ясінскі Васіль Герасімавіч (1901-1972), жыў у в. Блудзень, сябра КПЗБ з 1924 года. У 1930-я гады ўзначальваў Бярозаўскі райкам КПЗБ, 7 гадоў правёў у польскіх турмах.

Труцько Сцяпан Аляксеявіч (1896-1966), жыў у в. Агароднікі, браў самы чынны ўдзел у дзейнасці падполля, ў 1937-38 годзе знаходзіўся ў канцлагеры Бяроза-Картузская.

Ходан Іван Васільевіч (1889-1973), жыў у в.Зарэчча, сябра КПЗБ з 1922 года, праводзіў актыўную падпольную працу ў Пружанскім павеце, сакратар Зарэчанскага падрайкама КПЗБ, правеў у турмах звыш сямі гадоў.

Імёны гэтых і многіх іншых людзей, з якімі дзеду давялося разам змагацца за волю, зараз шырока вядомыя на Бярозаўшчыне і Пружаншчыне.

Увосень 1934 г. асуджаны Іван Казловіч быў пераведзены з Пружанскай у Седлецкую турму. Там, у снежні 1934 года, увайшоў у шэрагі КПЗБ. У турме ён знаходзіўся да мая 1937 года, пасля чаго быў вызвалены па амністыі. Увесь гэты час здзекі з боку гвалтаўнікоў у паліцэйскай форме не спыняліся. Толькі чалавек з вялікай стойкасцю ды мужнасцю, бязмежна адданы сваей ідэі, мог вытрымаць гэта.

У 1937 годзе дзед узнавіў сваю дзейнасць, ужо ў якасці сябра КПЗБ: быў сакратаром парт'ячэйкі, сябрам рабочай тройкі Пружанскага райкама КПЗБ, адначасова непрацяглы час узначальваў Пружанскі РК КСМЗБ. Зарабіць на хлеб чалавеку, які быў асуджаны за падпольную дзейнасць, было вельмі цяжка. Дзед працаваў чорнарабочым на будаўніцтве меліярацыйнага канала Вінец, як і раней, сістэматычна падвяргаўся затрыманням.

Савецкая ўлада, ў якую так верылі і на якую спадзяваліся падпольшчыкі, нанесла свой першы ўдар яшчэ ў 1938 годзе, калі па ўказанню Сталіна была распушчана КПЗБ. Адразу значна ўскладнілася падпольная праца, роспуск самай масавай партыі ў Заходняй Беларусі не пакінуў амаль ніякіх спадзяванняў на змяненне існуючага становішча. Былыя сябры КПЗБ бачылі толькі адзін шлях – далучэнне да СССР. Менавіта на гэта і спадзяваліся расійскія бальшавікі, знішчаючы КПЗБ.

Пасля далучэння Заходняй Беларусі да СССР, дзед працаваў на розных пасадах, у розных установах, быў на фронце. І ўсюды пакінуў пра сябе памяць, як пра сумленнага, адказнага, працавітага і спрвядлівага чалавека. І для мяне ён заўжды быў узорам сумленнасці і годнасці, мужнасці і адданасці сваёй ідэі.

Памёр дзед 14 лістапада 1990 года, але й цяпер людзі памятаюць яго і його-ныя справы.

Пройдзе час і паставіць усе на свае месцы. Людзей будуць памятаць перш за ўсе за іх справы, зробленыя на карысць Радзімы. А мой дзед, Іван Данілавіч Казловіч, кожную хвіліну свайго жыцця дбаў аб шчасці людзей свайго краю, горада Бярозы, дзе жыў з 1956 года, аб карыснасці сваёй дзейнасці для людзей і дзяржавы. Таму я і вырашыў распавесці пра яго на старонках "Гістарычнай брамы ".

***Ігар Гаравы, вучань 9 класа СШ №1 г. Бярозы.***

Ксаверы Зданьскі

# Брэсцка-літоўскі павет у 1569 – 1793 гг.



# Дамініканскі кляштар у Гошчаве.

*У 1996 годзе мы ўрачыста адзначылі 250-годдзе з дня нараджэння нашага слаўнага земляка Тадэвуша Касцюшкі. Тады ж мяне ўразіў той факт, што Тадэвуш быў ахрышчаны ў Косаўскім касцеле прыерам (настаяцелем) Гошчаўскага дамініканскага кляштара Раймундам Корсакам 12 лютага 1746 года, аб чым і засведчана ў касцельнай кнізе пад нумарам 478.*

Якраз гэта і падштурхнула мяне да думкі пашукаць матэрыялы, каб грунтоўней даведацца аб дзейнасці каталіцкага ордэна дамініканцаў на Беларусі, у прыватнасці ў Гошчаве.

Каталіцкі манастырскі ордэн дамініканцаў, які атрымаў назву ад імя яго заснавальніка святога Дамініка дэ Гусмана (1170-1221), паставіў сабе мэту: змагацца з ерасямі, ведучы актыўную асветніцка-месіянерскую дзейнасць. Ордэн, акрамя будаўніцтва касцелаў, закладваў манастыры, адчыняў пры іх школы і калегіумы, узводзіў шпіталі.

Звычайна служкі ордэна апраналіся ў белую сутану з белым капюшонам. Калі ж выходзілі на вуліцу, накідвалі зверху чорную мантыю з чорным капюшонам.

Герб ордэна ўяўляў сабой выяву сабакі, які нясе паходню. Ен сімвалізаваў галоўнае прызначэнне ордэна: пазбаўляцца ад ерэтыкаў і несці сваімі казаннямі святло ісціны. Яны, відаць, былі добрымі прапаведнікамі, бо хутка займелі сваіх прыхільнікаў і ў Вялікім княстве Літоўскім. На іх баку былі ўплывовыя магнаты, якія не шкадавалі адпісваць на будаўніцтва кляштароў немалыя грошы, маемасць і землі.

У 1647 годзе ствараецца асобая літоўская правінцыя Анела Ахоўніка, якая ўжо да 1818 года налічвала 38 кляштароў. У 1830-1860 гадах кляштары дамініканцаў на Беларусі былі зачынены, жылыя памяшканні прыстасаваны пад салдацкія казармы і турмы або перададзены праваслаўнай царкве.

Гошчаўскі кляштар закладзены ў 1642 годзе стараннямі каштальяна смаленскага Мікалая Тышкевіча і яго жонкі Ізабэлы з роду Дольскіх. Па некаторых дакументах значыцца, што яны падарылі манастыру 50 сялянскіх двароў і каля 30 валок зямлі. Праіснаваў кляштар нядоўга. У 1778 годзе нейкі Глухоўскі (відаць трымальнік Гошчава) усе адабраў. Дамініканцы-манахі, як паведамляецца ў архіўных матэрыялах, пешшу з крыжам пайшлі ў Слонім.

Мяркуюць, што будынкі кляштара размяшчаліся якраз на тым месцы, дзе цяпер стаіць царква, пабудаваная ў 1838 годзе.

*А. ЗАЙКА,*
*настаўнік Запалянскай сярэдняй школы.*

*ДЗЯКУЙ!*
*Грамадскае аб'яднанне "Бяроза-Картузская" выказвае шчырую падзяку за тэхнічную дапамогу Гродзенскаму абласному аб'яднанню "Ратуша" і Берасцейскаму абласному Цэнтру "Вежа".*

**УВАГА!**

**Калі Вы жадаеце атрымліваць дайджэст далей, паведаміце, калі ласка, аб гэтым па кантактных тэлефонах, альбо пісьмова па ўказаным адрасе. Па меры выхаду ў свет наступных нумароў, яны будуць Вам дасылацца.**

**"Гістарычная брама"**

**дырэктар праекта і рэдактар ........ Мікалай Сінкевіч**

**мастак ........ Анатоль Маразюк**

**кампутарная вёрстка ........ Васіль Азаранка**

**выдавец ........ грамадскае аб'яднанне "Бяроза-Картузская" імя Казіміра Сапегі**

**☎ кантактныя тэлефоны ........ (01643) 58-0-87, 2-45-72**

**✉ 225230, Брэсцкая вобл., Бярозаўскі р-н, п/а Першамайскае, вул.Балканы, 46.**

**тыраж 299 экз.** **распаўсюджваецца бясплатна**